Год III. Студзень 1934 г. № 1 (25).

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты есі Пётръ, и на семъ камени созижду церковь мою. Мата. 16. 18.

БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Студзень 1934 г. № 1 (25).




*На новы 1934 год ад шчырага сэрца жадаем усім нашым В. П. супрацоўнікам ды чытачом, прыхільнікам ды няпрыхільнікам багаславенства Божага ў іх жыцьці ды працы.*

*РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ.*

# Багаяўленьне або Хрост Гоcпадаў.

(*6 студня*).

*(ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ РАЗЬДЗЕЛ 3, 13—17; ЗАЧАЛА 6)*

*13. Таго часу прыйшоў Ісус з Галілеі на Іордан да Іоана, каб хрысьціцца ад яго.*

*14. А Іоан паўстрымліваў Яго, кажучы: Мне трэба хрысьціцца ад Цябе, а Ты прыходзіш да мяне.*

*15. А Ісус яму адказаў: Пазволь цяпер! бо так выпадае нам выканаць усякую праўду. Тады пазволіў Яму.*

*16. І ахрышчаны Ісус выйшаў зараз з вады і вось адчыніліся Яму нябёсы і ўвідзеў, як Дух Сьвяты спускаўся пад відам галуба і зыходзіў на Яго.*

*17. І вось ад'зываецца голас з неба: Гэты ёсьць Сын Мой ўлюблёны, у Каторым Я спадабаў Сабе.*

---

*«Господь просвѣщеніе мое и Спаситель мой, кого убоюся».*
(***Прокім. на Утрані***).

Сягоньняшняя ўрачыстасьць называецца Багаяўленьнем, дзеля таго, што Госпад Бог выявіў перад людзьмі свайго Сына Госпада нашага Ісуса Хрыста: у часе хросту на рацэ Іордане пачуўся голас Бога Айца над Ісусам Хрыстом: „Гэты ёсьць Сын Мой улюблёны ў Каторым Я спадабаў Сабе“. (Мацьв. 3, 17).

Гэтае сьвята людзі называюць Іорданам, дзеля таго, што, на памятку хросту Збаўцы ў Іордане, адбываецца па парахвіі вялікае пасьвячэньне вады. Гэта цэрамонія адбываецца вельмі ўрачыста: крэсны ход ідзе да бліжэйшае ракі або возера і там адбываецца пасьвячэньне вады.

Бог Айцец цудоўным спосабам паказаў нам на свайго Сына. Зышоў на зямлю Сын Божы, каб паказаць людзям шлях да шчасьця вечнага, каб збавіць іх. Вось дзеля чаго кожны хрысьціянін ад усяго сэрца можа паўтараць словы пракімну на Утрані сяньняшняга сьвята: „***Господь просвѣщеніе мое и Спаситель мой, кого убоюся***“ — „Госпад асьвета мая ды Збаўца мой, каго маю баяцца“.

Запраўды Ісус Хрыстос праз сваю боскую навуку асьвя

ціў цемру на зямлі. *„Богъ ёсьць сьвятло, і няма ў Ім ніякае цемры“* (I Пасл. Іоан. Б. 1, 5).

Да прыходу Хрыста нават наймудрэйшыя людзі не маглі адказаць на вельмі важнае пытаньне, — нашто чалавек жыве на сьвеце? Кожны пасвойму адказваў на гэтае пытаньне, адзін другому пярэчыў, дзеля таго справядліва адзін з гэтых мудрацоў, Цыцэрон, сказаў: „Ці-ж з рэшты філёзофаў кожны найлепшы і найважнейшы ня прызнае, што шмат чаго ня ведае й што яму яшчэ шмат застаецца пазнаць? Ня ведаю ці ня можна што гэтак абсурднае сказаць, чаго-б не цьвярдзіў які-нібудзь філёзоф“.

Збаўца прасьвяціў цемру, Ён стаўся для ўсіх дарогаю, праўдаю ды жыцьцём. Вось чаму Каталіцкая Царква, прыступаючым да асьвячэньня вады, кажа сьпяваць: *„Гласъ Господенъ на водах вопіетъ, глаголя: пріидите, примите вси духа премудрости, духа разума, духа страха Божія, явльшагося Христа“* (Чинъ в. водосв.).

Госпад наш Ісус Хрыстос навучыў нас праўдаў божых, Ён нам паказаў шлях разумнага жыцьця, Ён нас навучыў страху Божага.

Кожны хрысьціянін ведае, нашто жыве, якая яго мэта жыцьця, ведае таксама дарогу да вечнага жыцьця і ідзе ёю.

Чалавек, як толькі пачынае адхіляцца ад сьвету Хрыстовае навукі, дык адразу пападае ў цемру, жыве так, як калісьці паганцы, як неразумная жывёліна.

У нашыя паваенныя часы цемра духоўная пачынае што раз гусьцей пакрываць наш народ, асабліва па вёсках. Часта здараецца пачуць ад людзей, што людзі цяпер сапсаваліся, азьвярэлі. Прычына галоўная ёсьць ня іншая, як тая, што сьвятло Хрыстовае навукі не прасьвячае шмат каго, людзі апынуліся ў цемры.

Мы павінны прасіць Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб прасьвяціў цёмны наш народ. *„Гдѣ бо имѣлъ бы свѣтъ твой возсіяти токмо на сѣдящія во тмѣ, слава Тебѣ“* (прып. з Навеч.).

Ісус Хрыстос ня толькі прасьвячае наш розум, каб ня блудзіў на дарозе да шчасьця, але і дае нам гэта вечнае шчасьце, збаўленьне. Хрыстос наш Збаўца, дзеля таго кожны з нас можа сказаць: *„Господь просвѣщеніе мое и Спаситель мой?“*

За нас памёр Збаўца на Крыжы, для нас заснаваў сваю Каталіцкую Царкву, дзеля нашага збаўленьня устанавіў сьвятыя таінствы.

Як падарожны ня толькі павінен знаць дарогу, але таксама мусіць мець сілы, каб ісьці ёю. Вось гэту моц ды сілу жыцьцёвую ў нашай падарожы да вечнасьці дае нам сьвятая каталіцкая царква праз сьвятыя таінствы.

Чаму цяпер запанавала паміж людзьмі ненавісьць, чаму дзеецца ўсюды крыўда, чаму адзін другому вырываюць

апошні кавалак хлеба, чаму брат з братам нават ня жыве ў згодзе, а цягаюцца па судох, трацячы апошні цяжка запрацованы грош? Усё гэта дзеля таго, што людзі адышлі ад Каталіцкае Царквы, ад жыцьцядаўчых сьвятых таінстваў.

Пякельныя сілы вядуць барацьбу з Хрыстом ды яго Каталіцкаю Царквою. Заўзятая барацьба вядзецца ня толькі ў бязбожнай Расеі, таксама і ў нас. Часам чалавек мусіць перанясьці шмат зьдзекаў ды прыкрасьцяў ад сваіх найбліжэйшых толькі за тое, што хоча выпаўніць абавязкі хрысьціяніна, што не староніцца ад сьвятых таінстваў.

Хто не паўстыдаецца Госпада Бога перад людзьмі, таго і Бог не адкіне, а прыме да сябе ў царства нябеснае. Калі Бог з намі, хто ж проці нас? *„Господь просвѣщеніе мое и Спаситель мой, кого убоюся"*.

Вось прыклад годны перайманьня: Сын набожных бацькоў забраны быў да адбываньня вайсковае службы. У хаце навучылі яго адмаўляць малітвы рана ды ўвечары, стаўшы на калены. Не пакінуў гэтага звычаю, як жаўнер, і ў казарме. Ужо першага дня ўвечары перад тым, як пайсьці спаць, стаў на калены каля ложка ды пачаў паціху маліцца. У казарме нічога падобнага ня бачылі, дзеля гэтага пачалі з яго сьмяяцца. Калі жаўнер не зьвяртаў на гэта ўвагі ды маліўся далей, пачалі сьвістаць ды тупаць нагамі. Аднак жаўнер адгаварыў свае малітвы ўсе да канца ды потым пайшоў спаць. Наступнага дня паўтарылася тое самае, таксама і трэцяга дня. Аднак, гледзячы на стойкасьць жаўнера, адзін з перашкаджаючых маліцца сказаў: „Гэта дзельны жаўнер; ён адважна трымаецца ў баі". З гэтага часу больш ужо не перашкаджалі яму маліцца, знайшліся нават і такія, што перанялі добры прыклад і пачалі хаця ня значна самі маліцца Госпаду Богу.

Вось прыклад, як трэба быць адважным у выяўленьні свае веры. З адвагаю ды з вялікаю надзеяй можам паўтараць: *„Господь просвѣщеніе мое и Спаситель мой, кого убоюся"*.

Як для кожнага з нас, так і для цэлае нашае уніяцкае царквы ня страшна будзе варожая сіла, калі Госпад Бог будзе з намі. *„Кто Богъ велій, яко Богъ нашъ"*. Мы можам з цэлаю адвагаю ды пэўнасьцю паўтарыць: «*Съ нами Богъ разумѣйте языцы, и покаряйтеся, яко съ нами Богъ*». Амін.

*а. Антоні.*



# Стары і Новы Год.

(*Дыялёг*).

(*Сустрачаюцца два старцы, адпаведна апраненыя*)

**Стары** (*да Новага з паклонам*):

Судзьбе прадвечнай пакараюсь,
Чало схіляю прад табой,
Я Старым Годам называюсь
Іду у вечнасьць, браце мой.

**Новы** (*з гордасьцю*):

А я сказаць вам гонар маю,
Што называюсь Новы Рок,
Жыцьцё сягоньня пачынаю,
Перада мною шлях шырок.
Таму скажы, мой браце мілы,
Што пражыў ты за свой век?
Ці даў людзям ты досіць сілы,
Каб цябе ўспомніў чалавек?
Скажы мне ўсё, дзе быў, што бачыў,
Што табе радасьць прынясло?
Чым ты ў гістор'і шлях ад'значыў,
Акрэсьлі мне сваё русло?

**Стары** (*вельмі паволі*):

Я ўжо стары, баляць мне ногі,
І мне нат цяжка гаварыць,
Я падарожжы адбыў многі,
Усюды мусіў даступіць;
Быў я у панскіх у палатах, —
Там бачыў роскаш і гульбу
І быў я ў цёмных, душных хатах —
Там бачыў гора і журбу:
Я быў і кляты і хвалёны
Сярод людзей што тут жылі;
Пры мне зрадзіліс міліёны
І міліёны памярлі;
Быў я ў гарах і быў ў далінах,
У найцямнейшым быў кутку,
Зімою спаў я на пярынах,
Пад дрэвам летам ў халадку.
Людзей сустрэў я шмат—бяз ліку,
Усякіх нацыяў, краёў —
Адным прынёс бяду вяліку,

Другім дастатак і любоў.
Быў я у цэрквах і касьцёлах,
Быў такжа я ў манастырох
І па усякіх бываў школах,
Рабіў усё, што казаў Бог.

**Новы:**

То добра, браце, разумею
Твае вялікія труды,
Але спытаць цябе пасьмею,
Найбольш дзе бачыў ты бяды?
Скажы мне, брат, а мо' патраплю
Там асалоду прынясьці
У мора горачы хоць краплю —
Я там гатоў найперш нясьці.

**Стары** (*уздыхнуўшы цяжка*):

О, так, я бачыў край вялікі,
Ад мор паўночных па Каўказ,
Пануе там парадак дзікі
Для ўсіх гаротных, бедных мас;
Там нішчаць цэрквы і касьцёлы,
Будуюць турмы і вязьніцы,
З людзкіх абліччаў сьмех вясёлы
Там зьнікнуў. Толькі бліскавіцы
Мігаюць там страшных пажараў.
Там людзі ў роспачы вялікай,
Сьвятых баронячы аўтараў,
За веру гінуць сьмерцю дзікай.
Там сам Люцыпар, з пекла родам,
Вайну вядзе супроць Хрыста,
Ён творыць зьдзекі над народам,
Які ня выракся краста.
Людзей там страшна, страшна многа
Тартуры зносіць розных мук —
Адным дзяруць там з сэрца Бога,
А другім працу з ўласных рук.
Кроў ручаямі там ліецца,
А сьлёзы рэкамі цякуць,
Страшны, пякельны дух імкнецца
Увесь народ ў кайданы скуць.

**Новы** (*хапаючыся за сэрца*):

О, досі, браце, рвецца сэрца,
Пайду адразу на Усход,
Каб не цярпеў у паняверцы
Вялікі Рускі наш народ.

Я разбуджу там яго гэні
І новы дам яму запал,
Каб працаваць для адраджэньня
Узяў сабе за ідэал.

**Стары** (*сумна*):

О не, мой брат, людзкая сіла
Ня можа зьмены там стварыць.
Улада Бога прагнявіла, —
І Бог так лёгка не прасьціць
Усіх насьмешак і абразы.
Малітваў трэба і ахвяр,
Каб край няшчасны ад заразы
Нарэшце звольніў Бог наш Цар.
Толькі тады прыдзе збаўленьне,
Калі пакаецца народ
Ды знову з Рымам да злучэньня
З пакорай вернецца Усход!

**Новы** (*рашуча*):

Ты, браце, праў і я то чую,
Што трэба Бога умаліць,
Каб нашу Русь, калісь сьвятую,
Ізноў да праўды накланіць!
І, каб Яна даждалась долі,
Сабе стаўляю ідэал:
Ісьці к народам добрай волі
І ў сэрцах іх будзіць запал;
Запал да працы місьянарскай
І да ахвяры на той цэль,
Каб праваслаўнай цэркве царскай,
Даў Бог злучэньне. Й карабель,
Яе аддаў Пятру у рукі
Які ўзяў ўладу кіраваць,
А тады ложныя навукі
Над ёй ня будуць панаваць.
А спадзяюся што спаткаю
Яшчэ на сьвеце добрых душ.
І ў тым паганскім сяньня краю,
Сьвятых расквітне многа руж.

**Стары:**

Ну, дык шчасьліва, мілы браце,
Хадзі, абнімемся адно:
Ужо нам годзе талкаваці —
Іду я ў вечнасьць, ты— ў жыцьцё.

**Уладзімер Берняковіч.**

# Жыцьцё Сьвятых славянскіх Апосталаў Кірылы і Мяфода.

**Хто былі і адкуль сьвятыя браты?**

Часта, слухаючы службы Божай, мы можам пачуць чытаньне з так званага „апостала“ пасланьня сьвятога Паўла да Фесалонійцаў.

Фесалонійцы, гэта жыхары гораду Фесалонік, належаўшага даўней да Грэцыі, але меўшага паміж жыхарамі шмат славянаў і нават сам горад паславянску называўся Солунь, а жыхары Солуняне.

Ужо з таго, што сьвяты Павал пісаў да жыхароў Фесалоніі пасланьне, бачым, што веру хрысьціянскую занёс туды той-жа апостал. Значыць, ужо ад апостальскіх часоў была там пашырана хрысьціянская вера. Вось у тым горадзе жыў у 9-тым стагодзьдзі высокі ўраднік цара Грэцкага Лявон з жонкай Марыяннай, каторыя былі бацькамі сьвятых братоў Мяфода і Кірылы, каторы на хросьце атрымаў імя Канстантына, а Кірылай назваўся пры паступленьні ў закон. Ці яны былі чыстыя грэкі, ці можа каторае з бацькоў было славянінам, або можа і абое, нічога пэўнага не вядома. Але пэўнае адно, што абодва браты ўмелі добра паславянску.

У маладасьці абодва браты высланы былі на навукі ў Цараград, дзе былі ў той час найлепшыя і найвышэйшыя школы. Там ад'значыўся здольнасьцяй побач найлепшага павядзеньня малодшы брат Канстантын, каторы, скончыўшы навукі, дастаў добрае становішча службовае. Старшы, Мяфод, хоць і не такі быў здольны, таксама скончыў школы і дайшоў да нейкага значэньня. Але абодвум хутка спрыкрыўся сьвет і пачулі ў сабе поклік Божы да жыцьця законнага, за каторым і пашлі, пакідаючы сьвет з яго марнай славай, і паступілі ў манастыр. Хутка цар запатрабаваў прафэсара да найвышэйшай школы ў Цараградзе, каторую нядаўна скончылі і абодва браты. Яму парадзілі, што ня знойдзецца лепшы кандыдат, як Канстантын, цяпер ужо Кірыла — яго і пазваў цар на прафэсара. Кірыла паслухаў, але не перастаў быць і законьнікам. Будучы прафэсарам вучыў ён ня толькі тэй навукі — філёзофіі, якую выкладаў, але і словам і добрым прыкладам вучыў ён парадачнага хрысьціянскага жыцьця і праўдзівай Хрыстовай веры.

**Сьв. браты ідуць на апостальства.**

У той час людзі былі занепакоены ў сумленьні, бо многа было розных фальшывых вучыцялёў веры і кожны

стараўся цягнуць людзей у свой бок. Просты народ у справах веры аглядаўся на сваіх паноў: як тыя верылі, да тэй веры прылучаліся і іх падданыя. А паны ці князі часамі выбіралі сабе веру так, як выбіраюць людзі які тавар пры куплі. Дзеля гэтага склікалі вучоных духоўных з розных вераў і загадвалі ім спрачацца, чыя вера лепшая, а самі прыслухоўваліся ды судзілі, каторую веру прыняць.

Гэтак каліф (князь) арабскі прасіў грэцкага цара прыслаць вучоных хрысьціянскіх духоўных дзеля дыспутаў з духоўнымі магамэтанскімі. Цар паслаў туды сьв. Кірылу, каторы сказаў, што карысьці з гэтага ня будзе, бо да прыняцьця праўдзівай веры перш за ўсё патрэбна пакора і ласка Божая, а ня вучоныя распраўы. Так і сталася: Кірыла хутка вярнуўся, нічога не даканаўшы.

Але цар выслаў яго цяпер на такую-ж дыспуту да караля Хазараў, што жыў над ракой Донам. Кірыла прасіў, каб яму дадалі да таварыства яго брата Мяфода. Абодва браты скіраваліся да Хазараў. Па дарозе вучыліся іх мовы. Але і ў Хазараў не пашчасьлівілася сьвятым братом: ні кароль, ні народ веры Хрыстовай не прынялі, толькі тыя, што і раней былі хрысьціянамі, ўцьвярдзіліся ў веры.

Будучы ў Крыме, сьв. браты знайшлі косьці сьв. Клеманса, папы рымскага, каторы быў трэцім наступнікам сьв. Пётры ў Рыме, ды праз цара сасланы быў у Крым, а тут затоплены ў моры. Вяртаючыся ў Царгорад яны забралі з сабой і мошчы сьвятога, ды ўпрасілі караля Хазарскага выпусьціць з няволі забраных у войнах нявольнікаў. З імі і вярнуліся.

Як раз пад той час прышлі ў Цараград паслы ад мараўскага караля Расьціслава з просьбай прыслаць у Моравію вучыцялёў хрысьціянскай веры. І туды паехалі сьвятыя браты Кірыла і Мяфод. Забралі яны з сабой і косьці сьвятога Клеманса.

## Хто былі моравяне і хто славяне?

Моравяне гэта народ славянскі. Жылі яны тады там, дзе жывуць і па сягоняшні дзень. Славяне дзяліліся тады на вельмі многа большых і меншых плямён, меўшых розныя назовы, але ўсе мелі больш-менш аднолькавую мову і аднолькавы характар і абычаі. Верылі яны ў той час у выдуманых ды многіх багоў, бо праўдзівага Адзінага Бога ня знали. Прызнавалі, што чалавек мае несьмяротную душу і што, пасьля сьмерці цела, будзе жыцьцё духоўнае, бесканечнае. Мелі характар спакойны, ніколі не нападалі на сваіх суседзяў, але ўмелі і ад іх добра бараніцца.

Суседзі славянаў з захаду — немцы — ужо раней пазналі веру Хрыстову і веру гэтую стараліся шырыць аружжам і сілай паміж славянаў. Князі і каралі славянскія ба-

чылі, што хоць-бы дзеля большага спакою ад немцаў трэба прыняць веру хрысьціянскую, але не хацелі яе прыняць ад немцаў, каторыя за хрост і сякую-такую навуку аб веры і Богу загадвалі славянам выракацца зусім свайго народу і свае роднай мовы. Гэтак і Расьціслаў прасіў вучыцялёў веры хрысьціянскай, але такіх, каторыя зналі-б мову славянскую, а гэткімі і былі сьвятыя браты Кірыла і Мяфод.

### Сьвятыя браты вучаць славянаў.

Прыбыўшы ў Моравію сьв. сьв. Кірыла і Мяфод выдумалі для славянаў грамату, літары — ды пачалі перакладаць ня славянскую мову Сьвятое Пісаньне і багаслужэбныя кнігі. У гэтай-жа мове пачалі адпраўляць службу Божую і казаць да народу навукі. Навукі гэтыя, як плывучыя з шчырага сэрца, пранятага адзіным жаданьнем вясьці гэты народ да збаўленьня — без ніякай палітыкі і хітрасьці — вельмі прыпадалі слухаючым да сэрцаў і яны наварочваліся да веры Хрыстовай. Першым прыняў сьвяты хрост сам кароль Расьціслаў, каторы і раней ужо знаў трохі веру хрысьціянскую, бо меў за жонку Мілаславу, дачку славянскага караля з Дальмацыі, хрысьціянку. За яго прыкладам пайшоў народ.

Сьвятых Апосталаў Кірылу і Мяфода кароль Расьціслаў меў у вялікім паважаньні. Сам ім памагаў, як могучы, ў распаўсюджваньні сьвятой веры. Стаўляў хрысьціянскія сьвятыні па ўсім сваім каралеўстве, а ў сталіцы сваёй Велеградзе выставіў вялікую сьвятыню катэдральную. Вера сьвятая шырылася і мацнела, слава Божая пашыралася.

### Сьвятыя Кірыла і Мяфод былі паслушны папе рымскаму.

Нямецкае духавенства, бачачы, што славяне, прыняўшы хрысьціянскую веру не ад немцаў, але ад сьвятых Кірылы і Мяфода, вырваліся з іх апекі, пачало пісаць да папы Рымскага жальбы на сьвятых братоў, быццам яны навучаюць фальшывай веры і заводзяць непазволенае багаслужэньне ў новай мове славянскай, а што маліцца быццам можна толькі ў тых трох мовах, у якіх была напісана Пілатам дошчачка на крыжы Хрыстовым: палацінску, пагрэцку і пажыдоўску.

Праўдзівага сьвятога найлепш пазнаць па тым, ці ён паслушны старшым. Вось папа рымскі Мікалай I, хочучы сам пераканацца, што гэта за людзі і якая іх праца, паклікаў іх да сябе ў Рым. І вось сьвятыя браты, ня гледзячы на тое, што яны выйшлі на апостальства ня з Рыму, а з Царацграду, а ні на тое, што цараградзкі патрыярх Фоцый у гэты самы час завёў сварку з папаю рымскім і адмовіў яму належачай паслушнасьці, — не сказалі напр., што мы падлягаем ня ўладзе папы рымскага, але патрыярха цара-

градзкага, а прызнаючы, што праўдзівы слуга Хрыстовы павінен быць паслушным устаноўленай ад таго-ж Хрыста зьверхнасьці, — наступніку сьвятога Пётры — зараз-жа пусьціліся ў дарогу ў Рым.

Дарога ў той час была цяжкая і доўгая, бо ня было чыгунак і цягнікоў, ані аўтамабіляў, як цяпер, калі можна было-б у два дні дастацца з Велеграду ў Рым, але трэба было ехаць коньмі і вазамі па кепскіх дарогах, а гэта цягнулася доўга.

Едучы ў Рым, сьвятыя браты даведаліся, што папа Мікалай I, каторы іх зазываў, памёр, аднак-жа не вярнуліся, але паехалі, вязучы з сабой і косьці сьв. Клеманса. Пакуль прыехалі, — у Рыме ўжо быў новы папа Адрыян II. Той, даведаўшыся, што сьвятыя Кірыла і Мяфод вязуць косьці сьвятога Клеманса, выйшаў з Рымскім духавенствам у працэсіі на іх сустрэчу, і гэтак увялі іх у Рым, пасьля чаго цела сьвятое было паложана ў базыліцы таго-ж сьвятога, а сьвятыя браты, ласкава прынятыя папаю, здавалі яму справу з свае апостальскае працы над славянскім народам. Папа і яго рада прызналі ўсю іхную дзейнасьць за добрую, зацьвярдзілі перакладзеныя імі кнігі ды пазволілі адпраўляць службу Божую і ўсякія малітвы ў славянскай мове. Сьвятому Кірыле ня суджана было вярнуцца ў Велеград: ён хутка захварэў і памёр 14 лютага 869 году. Пахавалі яго з гэткім парадам, як звычайна хавалі ў той час папаў і ў гробе, каторы быў сабе прыгатовіў папа Адрыян II.

А сьв. Мяфод з багаславенствам папы рымскага для сябе, для караля Расьціслава і для славянскага народу вярнуўся ў Моравію ў годнасьці Архіяпіскапа.

## Праца і сьмерць сьв. Мяфода.

Прыбыўшы ў Моравію сьвяты Мяфод, як зорка ясная, прысьвечваў наверненым ім і братам новым хрысьціянам і пашыраў сваю працу, наварочваючы што раз дык болей народу.

Але нядоўга ён цешыўся спакоем у сваёй працы.

Пасьля Расьціслава ўзыйшоў на каралеўскі пасад унук яго Сьвятаполк, каторы пачаў прасьледаваць і прыціскаць веру хрысьціянскую. Прышло да таго, што Архіяпіскап Мяфод зьняволены быў абвясьціць на караля кару адлучэньня ад царквы. Гэта яшчэ горш разгневала караля, каторы абвінаваціў Мяфода перад папай рымскім, быццам ён шырыць навуку фальшывую. Папа пазваў Архіяпіскапа ў Рым, каб пераканацца, як ёсьць напраўдзе. Мяфод, як праўдзівы слуга Хрыстовы, паслушны законнай зьверхнасьці, пасьпяшыў у Рым, стаў перад Апостальскім Пасадам і шчырым расказам, як ён вучыць і што дзеецца ў Моравіі, пераканаў папу рымскага ды кардыналаў, што вучыць ён, як трэ-

ба. Вяртаючыся ў Моравію, хацеў Мяфод забраць з сабой цела свайго брата сьв. Кірылы. Папа спачатку быў згадзіўся на гэта, але народ і духавенства ўпрасілі яго не пазволіць. Мяфод адзін вярнуўся да сваіх авечак у Моравію, вязучы пісьмо папы да караля Сьвятаполка, выясьняючае нявіннасьць Мяфода і пацьвярджаючае яго на пасадзе Архіяпіскапа.

Тымчасам Сьвятаполк апомніўся і на сустрэчу Мяфода выйшаў з пашанай у таварыстве сваіх міністраў і вялікіх паноў, пасьля чаго настала між імі згода і спакой. Незадоўга пасьля гэтага сьв. Мяфод навярнуў да веры Хрыстовай чэскага караля Божывоя і яго жонку Людмілу, а за ім і народ чэскі.

Стараўся сьвяты Мяфод, каб і дальшыя народы славянскія пазналі праўдзівую веру Хрыстову. У гэтых трудох пастарэў і страціў здароўе, ды чуўся блізкім сьмерці. Тады сам назначыў на сваё месца новага Архіяпіскапа, сабраўшы духавенства і народ даў ім апошняе павучэньне, каб заўсёды цьвёрда дзяржаліся праўдзівай Хрыстовай веры і жылі паводле яе навукі, пасьля чаго і памёр спакойна 6 красавіка 885 г. Пры целе яго адпраўлялі набажэнства ў трох мовах: лацінскай, грэцкай і славянскай. З вялікім жалем і вялікай пашанай пахавалі яго ў Велеградзе ў сьвятыні Маці Божай.

## Закончаньне.

З жыцьця сьвятых славянскіх апосталаў Кірылы і Мяфода мы бачым, што як яны да сьмерці прызнавалі над сабой зьверхнасьць папы рымскага, так і мы павінны прызнаваць яго зьверхнасьць; як яны яго слухалі і да яго езьдзілі здаваць справу аб сваёй працы, так і мы павінны ў рэчах веры і абычаяў слухаць вучэньня наступніка сьв. Пётры і тых што астаюцца пад яго зьверхнасьцяй ды з ім у лучнасьці.

Пры пахаваньні сьвятога Мяфода адпраўлялі маленьні ў трох, мовах і двух абрадах: усходнім і заходнім. З гэтага бачым, што і лацінскі і грэцкі ці славянскі язык і абрад роўна добрыя і мілыя Богу, абы толькі вера была праўдзівая Хрыстовая, не сфальшаваная ніякімі адкіданьнямі, ды нязгоднымі з духам веры Хрыстовай дабаўкамі. Хрыстос сказаў да сьв. апостала Пётры: „Ты ёсьць Пётра (гэта знача камень, скала), на гэтай скале збудую царкву маю і вароты пекла не перамогуць яе. Табе дам ключы валадарства нябеснага і што толькі зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана і ў небе, а што толькі разьвяжаш на зямлі, будзе разьвязаным і ў небе“. (Мацьв. XVI, 18–19). Гэткім спосабам Хрыстос устанавіў Пётру і яго наступнікаў зьверхнікамі і найвышэйшымі вучыцялямі ў сваёй Царкве. Дзеля гэтага ўсе

сьвятыя Айцы Царквы Каталіцкае заходняе і ўсходняе, а таксама і сьв. Кірыла і Мяфод прызнавалі зьверхнасьць папы рымскага, як наступніка сьв. Пётры, — дзеля гэтага кожны, хто хоча быць прававерным хрысьціянінам, павінен слухаць Сусьветнага Архірэя, папы рымскага, ў справах веры і абычаяў.

*а. Б. П.*

---

# Нарады Япіскапаў усходніх епархіяў Польшчы ў Рыме.

3—7 кастрычніка сёлетняга году адбыліся ў Рыме нарады Япіскапаў з усходніх епархіяў Польшчы датычна унійнае акцыі на акраінах. У гэтых конфэрэнцыях бралі ўдзел: Я. В. Архіяпіскап Віленскі Р. Ялбжыкоўскі, які старшыняваў на нарадах, Япіскап Падляскі Г. Пшэздзецкі, Япіскап Луцкі А. Шэлёнжэк, Япіскап Пінскі М. Букраба, суфраган пінскі К. Неміра і Апостальскі Візытатар М. Чарнэцкі. На нарадах прысутным быў таксама і Я. П. Апостальскі Нунцы ў Польшчы Фр. Мармаджы. Па скончаньні нарадаў Япіскапы на чале з Нунцыем былі прынятыя на даўжэйшай аўдыенцыі Сьв. Айцом, якому прадставілі рэзультаты сваіх нарадаў. Пры гэтай аказіі Сьв. Айцец сказаў прамову, у якой сардэчна дзякаваў Япіскапам за іхныя труды і няпрыемнасьці, пераношваныя для унійнае справы сярод перашкодаў, якія Ён добра ведае, бо пазнаў асяродзьдзе, будучы нунцыем у Польшчы. Дзякаваў далей Япіскапам, што навязалі духоўны кантакт паміж Ім і душамі, для якіх Боскі Збаўца прынёс шчодрае адкупленьне. Сьв. Айцец цяпер яшчэ ня мае сродкаў, каб усе прапазыцыі конфэрэнцыі правясьці ў жыцьцё, але мае іх Божае Правідзеньне, Якое ў свой час ужыве іх для збаўленьня несьмяротных душаў.

„Oriens".



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Львоў. (КАП). Езуіты ўсходняга абраду ў Закарпацьці.** Па просьбе Япіскапа Стойкі, грэка-каталіцкага ардынатара з Мукачова айцы Езуіты ўсходняга абраду прынялі на сябе кіраўніцтва япіскапскага інтэрнату для моладзі ў Ужгорадзе. Езуіты ўсходняга абраду будуць цяпер трэцім законам побач з Базыльянамі і Рэдэмпторыстамі (ўсходн. абраду), працуючым сярод русінаў Закарпацьця.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Горад Ватыкан. (КАП). Ватыкан і Злучаныя Штаты.** У сувязі з прыбыцьцем у Рым міністра поштаў Злучаных Штатаў п. Фарлея, даведваемся, што міністар прыбыў у спэцыяльнай місіі ад прэзыдэнта Рузвэльта з мэтаю паінфармаваньня сьв. Айца аб дагаворы Злучаных Штатаў з Саветамі, а таксама аб агаворках, якія датычаць запэўненьня рэлігійнае толеранцыі для грамадзян Злучаных Штатаў. Пасьля аўдыенцыі ў сьв. Айца міністар Фарлей меў доўгую размову з кардыналам дзяржаўным сэкрэтаром Пачэльлі.

**Лёндон. (КАП). Ці-ж гэта зьмена рэлігійнае палітыкі ў Савецкай Расеі?** Рымскі корэспондэнт лёндонскай часопісі „Daily Telegraph“ апошнім часам падаў вестку, што ў часе размовы Мусоліні з Літвінавым у Рыме, павадыр фашызму закрануў у дыскрэтнай форме пытаньне культурнае палітыкі бальшавікоў, выходзячы з таго, што прэзыдэнт Рузвэльт атрымаў ад савецкага міністра заграцічных справаў гарантыі рэлігійнае свабоды для амэрыканскіх грамадзян. „Il Duce“ патрэбаваў гэтага самага і дзеля паглыбленьня італьянска-расейскіх прыязных адносін запрапанаваў у форме прызнага заахвочваньня адступленьне ад палітыкі прасьледаваньня рэлігійнае ідэолёгіі.

Цяпер, пасьля выезду Літвінава з Рыму, той-жа самы корэспондэнт „Daily Telegraph'у“, паклікаючыся з націскам на інфармацыі з компэтэнтных кругоў, ізноў абгаворвае праблему нібыто маючага зьмяніцца курсу палітыкі ў Маскве, пры чым выказвае гэткі пагляд: „У найбліжэйшым часе трэба чакаць важных праабражэньняў у адносінах паміж Апостальскаю Сталіцаю і Расеяй“. Міністар пошты і тэлеграфу Злучаных Штатаў Фарлей, які, як ведама, ёсьць практыкуючым каталіком, мае адыграць ролю пасярэдніка паміж Ватыканам і расейскім урадам у тым сэнсе, „каб складніць савецкі ўрад да расьцягненьня на ўсіх бяз вынятку каталікоў гарантыі бясьпечнасьці перад прасьледаваньнем, якая прызнана ўжо амэрыканскім грамадзянам, што пражываюць у Расеі або падарожнічаюць па ёй“.

**Горад Ватыкан. (КАП). Арганізацыя Каталіцкае місіі ў Эстоніі.** З'арганізаваньне каталіцкае місіі ў Эстоніі даручана Апостальскаю Сталіцаю а. Буржуа, Т. І. А. Буржуа ў 1924 годзе прыняў з пазваленьня сьв. Айца візантыйскі абрад і рад гадоў працаваў на ўсходніх акраінах у Польшчы, на Падкарпацкай Русі і ў Латвіі. Апошнім часам прабываў пэўны час у Англіі з мэтаю падрыхтаваньня кадру маладых каталіцкіх працаўнікоў для місійнае акцыі на абшары Эстоніі.

**Бэрлін. (КАП). Выдатны Езуіт у нямецкім міністэрстве.** Вядомы Езуіт а. Фрыдэрык Мукэрман пакліканы міністрам Гэббэльсам у міністэрства прапаганды. Гэтае назначэньне зразумела выклікала вялізарную сэнсацыю ўва ўсёй Нямеччыне.

**Горад Ватыкан. (КАП). Насяленьне Індыі павялічылася на 34 мільёны ў працягу 10-цёх гадоў.** Згодна з справаздачаю спэцыяльнае камісіі дзеля дасьледжваньня рэзультатаў перапісі насяленьня ў Індыі, агульны лік жыхароў Індыі разам з Бірмаю і Цэйлёнам быў у 1931 г. 353 мільёны. Лік гэты павялічыўся ад 1921 да 1931 г. на 34 мільёны, або на цэлых 10,6%.

**Горад Ватыкан. (КАП). Конгрэс місіялёгіі ў Мілане.** Праца місіялёгічнага Конгрэсу пры каталіцкім унівэрсытэце С. Сэрца Ісусавага разьвіваецца над'звычайна добра. Архіяпіскап Костанціні, апостальскі дэлегат на Кітай, апошнім часам прачытаў нязвычайна цікавую лекцыю аб царкоўным мастацтве на місійных пляцоўках. Дастойны лектар у сваёй лекцыі праводзіў пагляд, што місіянэры не павінны пераносіць на місійны грунт эўрапэйскіх артыстычных помыслаў, але павінны імкнуцца да прытарнаваньня да патрэбаў культу дасьведчаньняў і артыстычнага смаку мясцовых народаў, хоць-бы нават і вельмі прымітыўных. Абмінаючы ўжо факт, што хоць і не заўсёды поўнасьцю адказваюць вымаганьням мастацтва, але багацьцем орнамэнтацыі падвышаюць артыстычную вартасьць сьвятыні, найважнейшая рэч, што яны ня робяць на тубыльцаў уражаньня чагосьці для іх вельмі чужога і паказваюць, што Царква абыймае каталіцкім братэрствам усе народы і расы, не зьневажаючы нічога, што ёсьць добрым у іхным нацыянальным характары.

Цікавым быў таксама і рэфэрат Амандэюса Джыяньніні, дзяржаўнага райцы і поўнамоцнага міністра Італіі, на тэму місіяў у міжнародным праве, багата ілюстраваны юрыдычнымі прыкладамі.

**Гага. (КАП). Адкрыцьце Міжнароднага Акадэміцкага Місійнага Конгрэсу.** Адбылося тут адкрыцьце леташняга Міжнароднага Акадэміцкага Місійнага Конгрэсу пры вельмі

вялікім удзеле місійных Япіскапаў. Адначасна Япіскап з Вэльзэну даканаў адкрыцьця выстаўкі місійнае мэдыцыны і ў доўгай прамове падчыркнуў вялікае значэньне лякарскае апекі на місіях. На першым пленарным сабраньні а. праф. Мульдэрс абгаворваў місійную энцыкліку „Rerum Ecclesiae" і паказаў, паміж іншым, на факт, што ў часе цяперашняга понтыфікату арганізована дасюль 144 новыя місійныя вокругі. У аднэй толькі Афрыцы лік гэтых акругоў павялічыўся з 89 да 124; асабліва добра разьвіваецца апостальская дзейнасьць у Кітаі, ня гледзячы на тое, што край гэты пераживае бязустанныя палітычныя замяшаньні. Нязвычайнаю азнакаю новачаснае місійнае круцыяты ёсьць, як думае рэфэрэнт, тая акалічнасьць, што Папы ўзялі яе кіраўніцтва ў свае ўласныя рукі. Сярод учасьнікаў леташняга конгрэсу пераважалі прадстаўнікі Голяндыі, Бэльгіі і Нямеччыны.

**Вена. (КАП). Шэсьць мільёнаў паганцаў набытых для Каталіцкае Царквы.** Прамаўляючы на сабраньні Акадэміцкага Місійнага Саюзу, кардынал Іньніцэр, паміж іншым, зазначыў: „Наплыў душаў да Царквы павялічыўся да тае ступені, што ў часе понтыфікату цяперашняга сьв. Айца набыта было для Хрыстовае навукі больш як шэсьць мільёнаў паганцаў у розных краёх. Наколькі магутным ёсьць гэты парыў да сьвятла можа сьведчыць факт, што у гэтым пэрыядзе адчынена 400 духоўных сэмінарыяў, да якіх падалося 16.000 кандыдатаў.

---

# Усячына.

**Ёсьць яшчэ недрукаваныя творы Фр. Багушэвіча.** Паводле вестак з беларускіх часопісаў, ёсьць яшчэ недрукаваныя творы беларускага паэта Фр. Багушэвіча, аўтора слаўных „Беларускае Дудкі" і „Беларускага Смыка." Рукапісы гэтыя мае дачка нябожчыка грамадзянка Мніховіч у Ашмяне, якая аднак выдаць іх камусь з беларусаў да друку ня хоча.

**Т-ва „Беларускае Каталіцкае Выдавецтва."** Дня 11-га сьнежня 1933 г. адбыўся Агульны Сход сяброў, на якім пасьля справаздачы ўступаючага ўраду Т-ва і ўлажэньня пляну працы на будучыню, Сход выбраў новы ўрад Т-ва, у склад якога ўвайшлі: Кс. Ад. Станкевіч—старшыня, Кс. др. Ст. Глякоўскі — скарбнік і студ. мэд. Я. Малецкі—сэкрэтар. — Названае Т-ва ў хуткім часе мае прыступіць да выданьня малітвеньніка для беларусаў каталікоў пад назовам: „Hołas Dušy."

**Крыху цыфраў з жыцьця СССР.** У Саветах сёлета канчаецца распачатая ў 1928 годзе 1-я пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва. У хуткім часе мае адбыцца XVII-ты усесаюзны зьезд камуністаў, каб падсумаваць здабычы пяцігодкі. Здабычы гэтыя аднак невялікія, бо апрача некалькіх заводаў (Днепрострой), мэталюргічных і аўтамабільных фабрыкаў, а таксама 250-ці вярстовага каналу ад Белага да Балтыцкага мора, які выкапалі палітычныя вязьні, няма чым хваліцца. Эканамічна, а гэта найважней, край стаіць слаба: голад і холад зьбірае тысячныя ахвяры. Дзівіцца гэтаму нечага, бо, як сьведчаць статыстычныя цыфры, інакш быць ня можа. Паводле статыстыкі ў 1913 г., калі Расея мела 120 мільёнаў душ, сабрана зернавога хлеба 85,8 мільёнаў тон, у 1928 годзе, перад пачаткам пяцігодкі, сабрана 71,5 міл. тон. а ў 1932, калі пяцігодка была на вышыні свайго поступу, а СССР. лічыў 160 мільёнаў душ, сабрана толькі 68,7 тон зерн. хлеба. З гэтага вынікае, што кожны грамадзянін СССР. мае хлеба на адну трэцюю менш, чым перад вайной, а калі зьвернем яшчэ ўвагу на тое, што ад сялян хлеб адбіраецца для войска, якое ўтрымліваецца надта добра, а такжа для урадоўцаў, якія ядуць хлеб ня менш, чым перад вайной, то ясным стане, што земляробу астаецца гэтулькі хлеба, што можа памерці галоднай сьмерцяй, тым больш, што гадоўля быдла ўпала за час бальшавізму больш як на 50 проц.

**Страшная катастрофа.** У Пазнані на станцыі 15.XII с.г. наехаў асабовы цягнік на другі такі самы цягнік. У выніку гэтага больш 70 асоб ранена і 8 забітых. Найбольш ахвяр сярод вучнёўскае моладзі, якая ехала на лекцыі. Ёсьць гэта апошнім часам найбольшая цягніковая катастрофа ўсяго сьвету.

**Катастрофа найвялікшага самалёту.** Збудованы ў савецкіх фабрыках найвялікшы самалёт, падчас пробнага лёту, з прычыны недакладнай дзейнасьці мэханізму, зваліўся і разьбіўся. Згінула пры гэтым 14 асоб, якія знаходзіліся ў самалёце. Сярод забітых былі і вышэйшыя афіцэры савецкае арміі.



# Календар

на м—ц Студзень 1934 г.

**Стары стыль** | **Новы стыль**

| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i świata rymska-kat. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Н | **Новы Год., Абр. Госп.** | 14 | N | **Hilaraha, Feliksa** |
| 2 | П | Сыльвэстра Папы Р. | 15 | P | Paŭła Pust. |
| 3 | А | Мч. Гардзея | 16 | A | Marcelaha. Ottona |
| 4 | С | Сабор 70 Апост. | 17 | S | Antona |
| 5 | Ч | Фэопэмта і Феоны | 18 | Č | Piotry |
| 6 | П | **Богаяўленьне. Вадохр.** | 19 | P | Henryka i Marty |
| 7 | С | Сабор сьв. Іоана Прадц. | 20 | S | Fabijana. Sebastyjana |
| 8 | Н | **Нядз. аб Закхеі** | 21 | N | **Ahnieški** |
| 9 | П | Мч. Паліеўкта | 22 | P | Wincentaha |
| 10 | А | Сьв. Рыгора Ніс. | 23 | A | **Pašlubiny M.B. Rajmun.** |
| 11 | С | Прп. Хвядоса Вял. | 24 | S | Cimachwieja. Felicyjana |
| 12 | Ч | М цы Тацьцяны | 25 | Č | Nawarot św. Paŭła |
| 13 | П | Мчч. Ярміла і Стратон. | 26 | P | Palikarpa |
| 14 | С | Адд. Баг.Прп.Айц.у Р.заб. | 27 | S | Jana Złatawusnaha |
| 15 | Н | **Нядз. аб Мыт. і фарыс.** | 28 | N | **Waleraha** |
| 16 | П | Пакл. вярыг. сьв. Пёт. | 29 | P | Franciška. Sawiny |
| 17 | А | Прп. Антонія Вял. | 30 | A | Hipalita. Martyny |
| 18 | С | Сьв. Апанаса і Кірылы | 31 | S | Piotry. Marceli. |
| | | | | | LUTY |
| 19 | Ч | Прп. Макара Эгіп. | 1 | Č | Ihnata. Bryhidy. |
| 20 | П | Прп. Яўхімія Вял. | 2 | P | **Najśw. Maci Bož. Hram.** |
| 21 | С | Прп. Максіма Спавед. | 3 | S | Błažeja |
| 22 | Н | **Нядз. аб блуд. Сыне** | 4 | N | **Miasapusnaja Niadz.And.** |
| 23 | П | Мч. Агафангела | 5 | P | Ahaty |
| 24 | А | Прп. Ксеніі Рымлянкі | 6 | A | Tytusa. Dzroty |
| 25 | С | Сьв. Рыгора Багаслова | 7 | S | Ramualda. Ryšarda |
| 26 | Ч | Прп. Ксэнафонта і Мар. | 8 | Č | Amiljana. Jana z Matty |
| 27 | П | Перан· мошч. сьв. Іоан.З. | 9 | P | Kiryły. Apolonii |
| 28 | С | Прп. Яфрэма Сірына. | 10 | S | Wilhelma. |
| 29 | Н | **Нядз. Мясап. п.м.Ігн.Баг.** | 11 | N | **Zap. Niadz.Abjaw.N.D.M.** |
| 30 | П | 3-х сьвяц. В.В.Г.Б.І.З.п.м. | 12 | P | Madesta. Aŭłalii. |
| 31 | А | Кіра і Іоана. | 13 | A | Jana. Kaciaryny. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.